# ЯЎГЕН МІКЛАШЭЎСКІ

*

# У СПРАДВЕЧНЫМ РУХУ



ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985



* * *

Вось краявід — узгоркі і лагчыны,
Спавітыя спрадвечным туманом.
І гэты кут — адзін з куткоў Айчыны —
Мая радзіма, родны край і дом.
І той, хто мае на зямлі радзіму,
Куды ні ступіць —
родны краявід
І ў светлую, і ў сумную гадзіну
Пад ногі кіне сцежкі аксаміт.
І самая чароўная з экзотык,
Хоць не прасі,
не дасць уцехі той,
Якую мне дае міжвольны дотык
Да кожнай сцежкі ў старане маёй.
На гэтых сцежках я не знаю стомы,
Нібы на чарадзейным дыване.
Сем цудаў свету?
Не апошні — сёмы:
Апошні цуд мой край адкрые мне.
Чаму ж мне любы гэты луг мурожны,
Што зноў цвіце ў лагчыне векавой?
Я — не прахожы тут, не падарожны,
Я — дарагі і блізкі тут,
я — свой!
Я тут хаджу і гутару па-свойску

То з лесам, то з палеткам, то з ракой.
Я тут стаю на ўліку, як у войску,
Хоць і жыву пад аркай гарадской.

Чым гэты край у свеце знакаміты?
А тым,
што тут жыве народ такі,
Што ўмее ткаць з мурогу аксаміты,
А з квецені вішнёвай ручнікі.
Жыве народ,
які спрадвек магнаты,
Як ліпку ў полі, praглі абадраць
І заадно,
кідаючы за краты,
Не толькі веру — мову адабраць.
Такі народ не згінуў і ў прымусе —
Яго ніякі злыдзень не скарыў!
І на зямлі гаротнай Белай Русі
Ён Беларусь Савецкую стварыў.

Стварыў маю ласкавую радзіму —
Вось гэты край, дзе кожны краявід
І ў светлую, і ў сумную гадзіну
Пад ногі кіне сцежкі аксаміт.
Той аксаміт не створаны прыродай,
А вытканы ў прыгоне векавым
Рукамі беларускага народа,
Каб я ў свой зорны час ішоў па ім.

## ЦЕМНАЯ НОЧ

Мы трэці адбілі ўжо наступ,
Але не здалі вышыню.
А колькі, ці знаеце, нас тут,
Што выйшлі жывымі з агню?

На цёмным начным небасхіле
Пражэктары толькі не спяць.
Ракеты ўзлятаюць штохвілі
І, гаснучы, ціха мігцяць...
Ручай у бярэзніку белым
Струменьчыкам веры цурчыць
І ў сэрцы маім набалелым,
Нібы калыханка, гучыць.

Якая трывожная ціша!
Байцы як забітыя спяць...
Не крэпасць лясную — узвышша
Не можа чужынец узяць.
Пакуль засталіся жывыя,
Мы страты не будзем лічыць...
Нябачна стаяць вартавыя,
І вораг да часу маўчыць.

Я падаю з ног, а не спіцца,
Хоць сон — гэта сіла жывых.
Заснуў бы, і мне касавіца
Прыснілася б, можа: «Жых-жых!
Жых-жых!» — і трава, што шумела,
Спявала б пад звонкай касой...

Што гэта? Зямля анямела
І слёзы сцякаюць расой?
Сцякаюць расою сцюдзёнай
Ці, можа, гарачай крывёй?
Смяротнай касой утрапёна
Махае вайна над зямлёй!

За намі ляжаць кіламетры,
Дзе вораг спраўляе свой баль.
Пах кветак стаіць у паветры,
А сэрца агортвае жаль.
Ці, можа, я хутка загіну,
Як гінуць усе на вайне?

Наскочу на кулю ці міну —
І скосіць асколак мяне!

Не, лепей не думаць нічога.
І так галава — як свінец!..
Ні вестачкі з неба начнога!
А там ёсць таксама Стралец.
Як воін, ён ведае, мабыць,
Што мужнасці нам не займаць,
І, свецячы, позірк мой вабіць
І мары спрабуе стрымаць...

Што сніцца ў акопах юнацтву?
Магчыма, не збыцца таму...
Калі ж ён пачнецца, той наступ?
Пакутна не спаць аднаму.
А трэба заснуць! Я — не супраць,
Ды як, калі знаеш — табе
Вось-вось падымацца насустрач
Агню і шалёнай пальбе!

Насустрач світанню і... смерці,
Што хоча жыццё спапяліць...
Чаму ж так трывожна на сэрцы?
Цікава, яшчэ хто не спіць?
О, як бы хацелася выжыць
І ўбачыць, што будзе пасля!
Спрадвек заваёўнікаў хіжых
Знішчала чужая зямля...

Ці думаў хто-небудзь пра гэта,
Што вораг тайком пападзе?
Ужо і сярэдзіна лета,
А ён не спыніўся нідзе.
Ён прэцца, нібы звар'яцелы...
Мы столькі адбілі атак,
А я не паранены — цэлы!
Мне вельмі шанцуе і так...

Якія чароўныя хвілі!
Павеяў свяжак з лугавін...
Далёка на небе, як шпілі,
Цямнеюць вяршыні ялін.
А вораг рыхтуе свой наступ...
Мы будзем стаяць да канца!
І ён недарэмна загraз тут —
Удосталь наесца свінца!

А колькі, ці знаеце, нас тут?
Якія мы сны тут глядзім?
Мы трэці спынілі ўжо наступ,
А будзе ж яшчэ не адзін!

* * *

Зайздрошчу зямлі:
Яшчэ так не было,
Каб яна чаго не дачакалася.
*Максім Танк*

Чарнелі вакол каміны,
Чакаючы вестак з вакзала,
І маці ў трывозе з вайны
Чацвёртага сына чакала.
Чакала яна не адна:
Чакала яго пасяўная,
Наогул
чакала вясна —
І рунь, і трава заліўная.
Чакала нявеста яго —
Дзяўчына з усмешкай вяснянкі,
А з ім —
вызвалення свайго
З абдымкаў халоднай зямлянкі.

Чакала яго і зямля,
Амаль безнадзейна чакала:
Зара Перамогі здаля
На свята народы склікала.
Са станцыі голас гудка
Трывожыў надзеяй шчымлівай,
І ўсе, хто любіў юнака,
Чакалі яго нецярпліва.
Ніхто не прадбачыў таго,
Што —
смерць ні на што не зважае —
Зямелька сустрэне яго —
І то не свая, а чужая.



## СВЯТЛО І СЛОВА

Засмяецца ў змроку золак —
І вакол світаць пачне...
Слова,
        як святло ад зорак,
Або дойдзе або не.
Дойдзе —
            і прамень пад ногі
Упадзе табе ўначы,
Каб не збіўся ты з дарогі,
У паўзмроку ідучы.

Ты пачуў калісьці слова,
Прапусціў, не зразумеў,
А прыпомніў выпадкова —
Ад здагадкі анямеў.
Што ў жыцці
                першааснова?
Кажуць: ведаем — святло!
А святло
            нясе нам слова,
Што да розуму дайшло.

Сэнс жыцця — пазнанне свету
Ад сцябла і да крыла.
Вынаходзілі ракету

Вынаходнікі святла.
Часам слова —
нібы зерне,
Што на камень упадзе,
І ніхто яго не верне,
Бо не знойдзе анідзе.

Хто б у сэрца ні пастукаў,
Адгукнуцца трэба ўмець:
Мову водсветаў і гукаў
Кожны можа зразумець.
Водсвет, слова...
Вось выснова:
Прызначэнне ў іх адно!
Як святло,
нам свеціць слова,
Калі цепліцца яно.

* * *

Я тое аддаю, што сам люблю,
І аддаю без выгады ніякай,
І ў сэрцы адгукаецца падзякай
Дабро, якое некаму раблю.

А ўдзячнасць, мусіць, вартая таго,
Каб і яе ў жыцці адзначыў хтосьці...
Аддам агонь, каб ён сагрэў кагосьці,
І водбліскам любуюся яго.

## ФАНТАН У ПАРКУ КУПАЛЫ

### Купальская балада

І зноў за чатыры кварталы
Я ў парк запаветны іду.
Купалінкі ў парку Купалы
Пускаюць вянкі на ваду,
Нібыта і праўда варожаць
Купальскаю ноччу яны,
І зноў маё сэрца трывожаць,
Як згадкі сівой даўніны...

Здаецца, і зноў прагрымела:
Ідзе навальніца здаля.
Відаць, нездарма спахмурнела
І сціхла на момант зямля...
Люблю, калі дожджык прыпусціць
І з плёскатам, цёплы, палье
І сонца, мільгнуўшы, прапусціць
З-за хмары праменні свае...

І ён прыпусціў нечакана,
Ды так нечакана і сціх,
І толькі фантан несціхана
Шумеў і не моўк ні на міг.
І — цуд! — над вадой пацямнелай
Спрадвечнай багіняй дажджу,
Нібы яна ўслед прыляцела,
Вясёлка мільгнула, гляджу.

Адна, а за ёй — і другая...
Захочаш — кранеш і рукой.
Заззялі, як арка жывая
Ці казачны мост над ракой.
Вачэй ад яго не адводжу
І раптам — чаго я стаю? —
Па ім да вады я сыходжу
І ўмомант вянок дастаю.

Вясёлкі адразу знікаюць,
Але не сціхае фантан.
Купалінкі моўчкі чакаюць,
Каму я вянок свой аддам.
— Паслухай, а хто ты такая? —
Шапнуў я нарэшце адной.
— Паўлінка.
— Паўлінка? Якая?
— А ты сустракаўся з другой?

І, нібы я ў чым вінаваты,
Хутчэй да паэта іду:
Ці ведае ён, што дзяўчаты
Пускаюць вянкі на ваду?
І, век свой шануючы сталы,
На іх азірнуся здалёк,
Да помніка Янкі Купалы
Паклаўшы чароўны вянок.

## У СПРАДВЕЧНЫМ РУХУ

Свет матэрыяльны —
У спрадвечным руху.
Гэты міг — спрыяльны,
Той — нясе разруху.
Ад лагчын да ўзвышшаў —
Шлях надзей і зорак.
Ледзь з нізіны выйшаў —
Узышоў на ўзгорак.
Небасхіл — пунсовы,
І абсяг — раздольны,
Калі спад — часовы,
А пад'ём — міжвольны.

Як дыханне зойме
Сухавей шалёны,
Значыць, блісне ў пойме
І ручай сцюдзёны.
Спёка — твар асвежыць
Халадок сустрэчны...
Ад чаго ж залежыць
Гэты рух спрадвечны?
Калі змрок спрабуе
Крылы распасцерці,
Не святло віруе
Напярэймы смерці?

Каб хапіла духу,
Я б рассунуў горы,
Ды ў спрадвечным руху
І зямля, і зоры.
Гінуць — не ў капкане —
І арлы, і дрофы,
І зямля ў чаканні
Новай катастрофы.
Не рассыпаць скруху,
Што зарой мігцела.
У спрадвечным руху
І душа, і цела.

Розум згоду славіць
Музыкай дасвецця.
Як зямлю пазбавіць
Эры ліхалецця?
Людзі добрай волі
Да святла імкнуцца.
Між сабой ніколі
Ім не сутыкнуцца.
Згіне ўсё ліхое
На сцяжынах духу,
Як дабро людское —
У спрадвечным руху.

* * *

Любі ў жыцці,
як май зялёны,
Слату і восеньскую млосць.
Прыйшоўшы ў гэты свет шалёны,
Прымі жыццё, якое ёсць.
А там,
дзе ёсць дабро людское,
Відаць, павінна быць і зло.
Хіба твой клопат —
не пра тое,
Каб на зямлі святлей было?
Ці не табе спявае Сольвейг,
Як трэба жыць —
чакаць, любіць?
Табе?
Тады ў жыцці што-кольвек
І сам павінен ты зрабіць!

* * *

Жыццё людское — вечная загадка,
Як і само свядомае быццё.
Жыццё людское —
гэта перасадка
На станцыі з нябыту ў небыццё.

* * *

Расхвалюешся чагосьці,
І няма табе спакою,
Як, паведаўшыся ў госці,
Ходзіць роздум за табою.

Узляцеўшы над сусветам,
Ён раптоўна нагадае,
Што твой час у свеце гэтым
Бескарысна прападае.

Быў — настаўнік, быў — дарадца
Роздум твой у міг трывожны,
Хоць любіў і паўтарацца,
Як, відаць, настаўнік кожны...

Мусіць, нешта ты злачынна
Загубіў ці зганьбіў дзесьці,
Калі роздум беспрычынна
Катам робіцца нарэшце?

## «ПЕРАПРАСІ»

І дзецям аддаюць загады:
Не хочуць піць кампот і чай!
І няньні, ім не даўшы рады,
Гатовы пáдаць у адчай.

Ты ў думках вынаходзіш кулю,
А маці: «Што ж ты не ясі?
Нашто давёў да слёз бабулю?
Ідзі хутчэй перапрасі!»

«Перапрасі» — як абяцанне,
Што больш не будзеш так рабіць,
Хоць у працэсе навучання
І паўтарэнні могуць быць.

Між тым ад крыўды альбо злосці
Ты галасі не галасі,
Але, пакрыўдзіўшы кагосьці,
Ідзі хутчэй перапрасі.

Сутычак у жыцці нямала,
І трэба ўмець перапрашаць,
Калі і сам пачнеш ты стала
Хлусіць, падманваць, спакушаць.

Калі ж людзей перапрашаюць?
Калі пакрыўдзяць незнарок?
Ці як паплакаць прымушаюць
Або даюць жыццёвы ўрок?

У чым жа ісціна парэшце?
Каб іскру спрэчкі пагасіць.
Калі кагось не ўдасца з'есці,
Умей як след перапрасіць.

Перапрасіць, вядома, значыць
Пры ўсіх прызнаць сваю віну
І паказаць усім, хто бачыць,
Сваю двурушнасць і ману.

Калі б не гэта неабходнасць
Крадком кідаць сабе папрок,
Хіба ж магла б высакароднасць
Насіць лаўровы свой вянок?!.

## ЗОЛАТА МАЎЧАННЯ

Слова — срэбра,
Маўчанне — золата.

*Прымаўка*

Якое ж маўчанне, вы скажаце, золата?
Не золата гэта, відаць,
Як нельга хоць раз раўнадушнасці волата
Другое значэнне надаць...

Такое маўчанне — як згода маўклівая
Зрабіць невялічкі пагром.
Такое маўчанне — нагода шчаслівая
Камусьці адпомсціць тайком!

А значыць, і боязь — крыху прыхаваная —
Свой голас за праўду падаць,
Магчымасць прыемная — і нечаканая —
Употай кулак паказаць.

Дык хіба ж маўчанне — сапраўднае золата?
Сапраўднае, трэба прызнаць,
Хоць, можа, з ударамі грому ці молата
Яго і не варта раўняць...

Маўчанне — нібыта чароўная палачка,
Што выручыць, як ты ні стой!
Калі ж яна стала тваёй выручалачкай,
Чаму ж ёй не быць залатой?!.

* * *

Я быў не раз, здаецца, закаханы
І не ўяўляў інакшага жыцця.
Але нічым канчаліся раманы:
Прызнаннем не ўратуеш пачуцця.
Сваіх каханых, толькі мне вядомых,
Я ўспамінаю — мілых, маладых!
І, нібы фатаграфіі ў альбомах,
У сэрцы берагу аблічча іх.
Яны ад часу блякнуць паступова,
Як дрэў абрысы ў цемрадзі начной,
Калі праменні захаду скупога
Не ззяюць больш на водмелі рачной.
Але ў душы ад светлых успамінаў

З'яўляецца лагоднае святло,
Якое невядома хто пакінуў,
Якое невядома як прыйшло.
Хоць не стаяў я, грэшны, на каленях,
Ды лёгка мне, каго я ні прысню:
Прызнанне ў мімалётных захапленнях
Падобна на міжвольную хлусню.
Я быў не раз употай закаханы
І ўсё жыццё каханнем жыў сваім.
І трапіў бы, відаць, у донжуаны,
Калі б у гэтым прызнаваўся ўсім.
І, можа,— у журбе ці паняверцы —
Усім, каго згадаю ў гэты міг,
Прысніцца, што ў адным журботным
сэрцы
Яшчэ жыве дзявочы воблік іх.

* * *

Гэтым — дружбы і спагады,
Тым — удачы не стае.
Калі ёсць спакуса ўлады —
Нехта марыць пра яе.
У жаданні ўладалюба
Я не буду шчыраваць,
Хоць у снах жанчыны любай
Не адрокся б цараваць.

* * *

На сэрца
скаргу ў клініку
Нясу я нездарма.
Умеранага клімату
Ізноў у ім няма.

Злуюся, непакоюся...
Вятры настрою дзьмуць.
А ў сэрцы —
                    як на полюсе:
Мароз — не прадыхнуць!

А потым,
                як на месяцы,—
Напал гарачыні...
І, снег размоклы месячы,
Ідзеш, як па агні.
Ласкавы подых вечара —
Не весні кліч жыцця?
І сэрца плача нечага
Ці скача, як дзіця.

* * *

Як па хісткай кладачцы
Перайсці ручай,
Калі шлях да радасці
Лёг цераз адчай?

Сум і ўцеха — родзічы:
Дом у дом жывуць.
Калі просіш слодычы —
Горыч падаюць.

Іх навука — строгая:
Кажуць: сціплы будзь!
Не прашу пічога я —
Можа, што дадуць.

* * *

Я ні слова табе не сказаў
Па зусім зразумелай прычыне:
На травінку расы панізаў —
І гатовы каралі дзяўчыне!

А прыгожыя словы заўжды
На каралі падобны такія.
Але высахне срэбра вады —
І паблякнуць травінкі сухія.

Ці ты ведаеш, колькі разоў
У цябе памірала надзея?
Я і сам, што шукаў, не знайшоў,
І, не ўспыхнуўшы, кроў халадзее.

Лепш ад слоў устрымаюся я:
Іх няпэўнасць паўрад ці паможа,
А надзея, надзея твая
Толькі раз ажыве яшчэ, можа.

Я не веру ў пачуцці свае,
А ты слову паверыць гатова,
Што спачатку ажывіць яе,
Каб пасля загубіць канчаткова.

* * *

Хто ж ты такая? Не лёс мой?
Тая, што суджана, не?
Нешта настрой мой узнёслы,
Нешта так радасна мне!

Кім ты ў жыцці маім будзеш —
Мне не прадбачыць таго...
Не, нездарма ты марудзіш,
Наабяцаўшы ўсяго.

* * *

Кропля дажджавая
Скочыць на карніз,
Пырсне як жывая
І ляціць уніз.

Я чакаю ў госці
Першы снег тайком,
А ідзе чагосьці
Мокры снег з дажджом.

Нейкі вецер, холад,
І струмень рабы
Вылівае хобат
Сцёкавай трубы.

Не правёў я лівень,
Не сустрэў я снег —
За акном слязлівым
Голай выспы плех.

Буду сніць вяселлі
Снежных завірух —
Першароднасць белі
Падымае дух.

Ды ў глушы сумётнай —
Шум пад капяжом,
А ў душы самотнай —
Мокры снег з дажджом.

Запацелі вокны.
Вецер на двары.
Злосны і намоклы,
Горла зноў дзярэ.

Ён шуміць пра змены,
Як і кожны год...
Пацямнелі сцены —
Пасвятлее ўсход.

* * *

Сапраўдная зіма,
Ці гэта сніцца мне?
На дрэвах — бель вязьма
Са снежных мулінэ.
А вецер зноў гудзе,
І снег з дажджом ідзе,
І чуеш плач і смех,
Калі цячэ са стрэх.

Не то са стрэх цурчыць,
Не то мароз трашчыць.
Але ці гэта ціш,
Калі ўсю ноч не спіш?

Сапраўдная зіма
Пасля бяссснежных зім,
А нечага няма —
Няўпэўненасць ва ўсім.
Забылася, відаць,
За сіняю гарой,
Як трэба цараваць
У гэтым краі ёй?

Каб снег зямлю занёс,
Пасля схапіў мароз
І да вясновых дзён
Валодаў светам ён!

* * *

Навагодняя ноч —
Самы радасны смех!
Шлях вячысты — не збоч —
Ад надзей і да ўцех.

Толькі ў гэтую ноч
Веру ў казку і цуд!
І, хоць марыць ахвоч,
Клічу роздум на суд.
І па шчоках цякуць
Два струменьчыкі слёз,
Успаміны пякуць,
Як у лютым мароз.
Ды суровы прысуд
Не выношу наспех
Ні хвілінам пакут,
Ні часінам уцех.
А сустрэўшы бяду,
Зноў паверыць магу,
Што я чары знайду
І на бабу-ягу.
І на цмокаў ліхіх
Адкую булаву,
Каб адсекчы і ў іх
Хоць адну галаву.
Толькі ў гэтую ноч
Я развею тугу
І ў святло тваіх воч
Зноў паверыць змагу!
Калі хочацца жыць —
Не палохае цень.
Я не буду тужыць —
Хай прыходзіць мой дзень!
Ліха, ведаю я,
Непрыкметна міне,
Ну а радасць мая
Хутка знойдзе мяне...
Новы год, Новы год —
Ноч развагі і дум,
Дзень святочных турбот
І будзённых задум!

## ГОД ПЕЎНЯ

Ёсць у японцаў каляндар
На шэсцьдзесят гадоў працягам.
Па ім і певень — уладар,
Што па зямлі ідзе са сцягам.
А восемдзесят першы год
Якраз і носіць воблік пеўня.
Тым, хто птушыны любіць род,
Ён шчасце прынясе, напэўна.
Хто ж нам не дасць паваражыць,
Каб адгадаць, што прынясе ён?
Што давядзецца перажыць?
Ці будзем з бульбаю і сенам?
Год пеўня — годам збажыны
Павінен быць абавязкова.
Крык пеўня, кнігаўкі, жаўны —
Матывы музыкі вясковай.
Вясковай — значыць, і лясной,
І палявой, і лугавіннай...
Шумець зялёнай збажыной
У гэты год зямля павінна.
І ёй прысняцца ветракі,
Што круцяць крыламі са скрыпам,
А гусі, качкі, індыкі
Пабудзяць раніцаю крыкам.
І ў гэтым годзе, як штогод,
Дзень птушак, безумоўна, будзе:
Буслоў і жаўранкаў прылёт
Адзначаць, як заўсёды, людзі.
Паправяць будку пры хляве,
Як і курнік, у знак падзякі,
Каб не забыць, хто там жыве,—
Год пеўня зменіць Год сабакі.
І мо сяброўства і любоў
На свеце возьмуць верх нарэшце,
І крыкі дзікіх галубоў
Сустрэнуць нас не толькі ў Брэсце.

Я не бяруся варажыць,
Што на зямлі людзей чакае:
Усе на свеце хочуць жыць,
Дык хто ж пагібель нам шукае?
Вось вынік гэтай варажбы:
І я магу рабіць прагнозы.
І сэрца стыне ад журбы
На ветры ядзернай пагрозы.

* * *

Стукае абцасікамі тонкімі
Любая мая па тратуары.
Крокамі, лятучымі і звонкімі,
Будзіць і хвалюе ў сэрцы мары.

Стукае абцасікамі родная.
Знае, што за ёй услед іду я,
І на тонкіх шпільках туфлі модныя,
Што купіў я ўчора, не шкадуе.

Галалёд. Зямля абледзянелая.
Пакаўзнешся — лёгка ўпасці можна.
А яна і не баіцца, смелая,
І ступае так неасцярожна.

Толькі лёд ні з кім яшчэ не цацкаўся:
Падаюць — хто з крыкам,
хто са смехам...
Лёгкі, гулкі стук яе абцасікаў
Аддаецца ў сэрцы маім рэхам.

Ён гучыць, як песня несціханая.
З ёй нічога не магу парадзіць...
Як табе ўдаецца так, каханая?
Ты ідзеш, а мне такая радасць!

## СПАТКАННЕ З ВЯСНОЙ

### 1

Я іду па тратуары,
А па вуліцы — цяплынь,
Што, як плынь, адносіць мары
За лясную далячынь...
Непрыкметна снег растане,
І не ўбачыш ты, калі
Блісне ў мроіве світання
Зеляніна на зямлі.
Неба зноў паласкавее,
Ледзь хмурынкі ў ім заснуць —
Ветрык весняй ласкай вее,
Толькі жаўранка не чуць.
І, відаць, невыпадкова
Не сінее так яно,
Калі песні жаўруковай
У надзем'і не чутно.
Ваза — мёртвая без кветак:
Не заўважыш на акне...
Неба, лес, за ім — палетак...
Вось малюнак, любы мне!
Не люблю я гарадскую
Веснавую мітусню.
Я па той вясне смуткую,
Што сустрэў упершыню.
Засмяецца ручаямі —
Снег у песні пераллье.
Гляне сінімі вачамі —
Не адыдзеш ад яе.
А як, пахнучы бензінам,
Ледзь зацепліцца зара,
У камбінезоне сінім
Трактар выведзе з двара,
Ад уцехі нечаканай
Будзеш ёю жыць адной,

Як пяшчотаю каханай,
Маладой і дарагой.
А калі на свята мая
Пройдзе сонечнай хадой —
Адурманіць, маладая,
Зелянінай маладой.

2

Кожны раз з уцехай новай
Я любуюся вясной.
За таемнаю размовай
Застае нас золак з ёй.
Толькі бліснуць у разорах
Веснавыя ручаі —
Заалеюць, нібы золак,
Пералескі і гаі.
І я зноў стаю і мрою
Перад воблікам зары,
Прытуліўшыся шчакою
Да бярозавай кары.
І жаўрук, што ўсюды прагне
Славіць вечную вясну,
Зноў да сэрца мне працягне
Песні звонкую струну.
І, як золак дажарэе,
Блісне сонечным святлом.
Неба, як аранжарэя,
Зазвініць блакітным шклом.
Тонкі, колкі ён настолькі,
Той блакіт, што камень кінь,—
І пасыплюцца асколкі:
Разаб'еш, як шкельца, сінь.

### 3

Можа, свісне шпак сапраўдны?
Можа, блісне хоць раўчук?
Летуценнік непапраўны,
Я шчаслівы, як хлапчук.
На спатканне еду з мілай,
Тою першаю вясной,
Што ізноў загаманіла
Недзе ў заглушы лясной.
Усміхніся ж, чараўніца,
Ты, зялёная каса,
Што яшчэ мне часта снішся,
Як жаночая краса.
Нейкай сілай незямною
Ты хвалюеш сэрца мне!
Не супернічаць з табою
Беднай вулічнай вясне...
Толькі... дзе твая ўрачыстасць?
Дзе твой голас гаманкі?
І шпакі не гэтак свішчуць,
І не так шумяць гракі...
«Ты, прызнацца, не такая,
Як здавалася ўвесь час...» —
«Не такая? А якая? —
І пагляд яе пагас.—
Гэта мне — неспадзяванасць...
Дзе ж гліняны твой гладыш?
Неспакой? Усхваляванасць?
Штосьць нявесела глядзіш...»
Дык чаго ж яшчэ хачу я?
Не магу пазнаць вясну
І не рад, што зноў тапчу я
Палявую баразну?
Але нешта ўсё ж хвалюе,
Быццам з хмаркамі плыву —
Гэта значыць, што жыву я.
Па-сапраўднаму жыву.

## ЖАДАННЕ

### 1

Ноч. Не спіцца. Ляжу.
Бачны горад з акна.
Дажджавую імжу
Сее ў змроку вясна.
На агні пагляджу —
Быццам свеціць душа,
І блішчыць ад дажджу,
Нібы люстра, шаша.
Адбіваюцца ў ёй,
Нібы ў люстры, агні,
А ў душы — неспакой,
Як у даўнія дні.

Не хачу ў гэты час
Я вярнуць маладосць,
Ды хацеў бы хоць раз
Закахацца ў кагось.
Так, каб любая мне
Стала весткай святла
І з'явіцца ў акне
Незнаёмкай магла.
Каб і мары былі,
І турботы мае,
Як і ўсё на зямлі,
Пра яе, пра яе...

Каб ад думкі адной,
Што каханне міне,
Сэнс не страціла свой
І жыццё для мяне.
Каб нічога ў жыцці
Не было даражэй,
Як з каханай прайсці,
Што за ўсіх прыгажэй.

Каб рабіла яна,
Што хацела, са мной,
Каб любая мана
З рук сыходзіла ёй.
І з вялікай тугой
Ці з уцехаї штодзень
Каб за любай сваёй
Я хадзіў, нібы цень.

Каб, сустрэўшыся з ёй,
Я растацца не мог
І, згубіўшы спакой,
Хваляванні бярог.
Каб пяшчотнасць мяне
Зноў зрабіла слабым...
Ды згаджуся ці не
Зноў я стаць маладым?
Я скажу: маладым,
Калі дым уваччу,
У выпадку любым
Я ўжо быць не хачу.
Зноў па нечым тужыць,
Не спазнаўшы людзей.
Не хачу перажыць
Зноў трывогі надзей
І зрабіць адкрыццё,
Што каханне — як сон,
І сваё пачуццё
Мы, як свечку, нясём...

Што ж не спіцца? Ляжу.
Пазіраю з акна.
Дажджавую імжу
Сее ў змроку вясна.
Не хачу ў гэты час
Я вярнуць маладосць,
Ды хацеў бы хоць раз
Закахацца ў кагось.

2

Усё на свеце ў нас магчыма!
Мне спадабалася дзяўчына.
І ў гэтым не мая віна,
Што даспадобы мне яна.

Ізноў бяссонніца і клопат.
Вось спадабалася, і ўсё тут!
Не знаю сам, за што? Чаму?
Каб мог, пажаліўся б каму:
Пакутуеш сам-насам,
Нашто — не знаеш часам.

Ды скажаш — кожны папракне:
Яна зусім не пара мне.
Я мог бы ёй умоўна
Быць бацькам, безумоўна.
Дык хто парадзіць, што рабіць?
Я не хачу ёй бацькам быць!
І — хай хоць бог пачуе! —
З ёй роўным быць хачу я
Па розуму і ўзросце,
Па радасці і злосці.

Чаго спяшае так ці позніцца
Каханне — нам не разгадаць.
Аднак узрост... Між намі розніца
Гадоў шаснаццаць, як відаць.
Шаснаццаць толькі? Ну, тады
Яшчэ, па-мойму, паўбяды.
І ў люстра на сябе гляджу я...
Быць, значыць, бацькам не магу я.
А кім тады я быць магу?
І як рукой зняло тугу.

З якой палёгкай я ўздыхаю!
Ажно не верыцца — кахаю,
Сам не заўважыўшы таго,

Кахаю, ліха на яго!
Не, тут усё прасцей, магчыма:
Мне спадабалася дзяўчына,
І ў гэтым не мая віна,
Што спадабалася яна.

Вось валасы... найгорш... сівыя.
Руіна з ног да галавы я!
Гады, вядома, ёсць гады,
А з часам — вечна нелады!
Але яна ўсё ж малайчына!
Відаць, разумная дзяўчына.
Кажу: «Ты бачыш? Сівізна...» —
«Дык што,— адказвае яна,—
Не сівізна, а павуцінка.
Ліст блякне —
без жыцця галінка...—
І, нахіліўшыся бліжэй,
Суцешыць: — Гэтак прыгажэй!»

І я паверыць ёй гатовы:
Мне па душы такія словы!
Што ж, сівізна — высакародна,
А ў наш касмічны век і модна.
Хіба не павуцінка гэта
На схіле бабінага лета?
Яна — як іней на галінцы,
Яна — як дожджык на ялінцы,
Як іскры-бліскаўкі, яна —
Відаць, сапраўднае ўпрыгожанне,
І бедаваць не варта, можа, мне,
Што ўжо на скронях сівізна,
Каб не з'явілася прычына;
Мне ж спадабалася дзяўчына!
У міні, модным паліто...
Так у жыцці маім, магчыма,
Не падабаўся мне ніхто.
Куды падзеўся розум, вопыт?

Яна ў бліскучых ходзіць ботах,
Не толькі модных — дарагіх,
І скачуць водбліскі па іх.

І ўсё ж не помню я, каб хтосьці,
Святлом чароўнай маладосці,
Як сонцам, асвяціўшы высь,
Так падабаўся мне калісь.
Але пакуль пад гэтым сонцам
У працы, клопаце бясконцым
Не пасівее галава —
Не разумееш хараства.
І вось, калі я разумею
І захапляцца ім умею,
Як хлопчык нейкі ўсё адно,
Мне недаступна ўжо яно.

Хоць спадабалася дзяўчына,
А поспех зноў праходзіць міма.
І ў гэтым не яе віна,
Што сніць пра іншага яна.
І не мая віна, бясспрэчна,
Хутчэй віна майго жыцця
Ці лёсу нейкага... хаця
Іх вінаваціць недарэчна.

* * *

Мне радасна вясной
Ад квецені маёвай,
Нібы магу я з ёй
Жыццё пачаць нанова.
У яблынь — светлы міг:
Камлі пабеляць мелам,
Ну, а галлё на іх
Асыпле цветам белым.

Вакол цвітуць сады,
А я стаю ціхутка:
Так і мае гады
Асыпле беллю хутка.
І ў гэты ж самы час...
Ды бель гадоў — не тая,
Што ажыўляе нас
І маладосць вяртае.

На свеце нават бель
Акаймавана чорным.
Чым далей — змрок глыбей
У прыцемку вячорнім.
Такая бель крыла —
У птушак, што над полем
На ўскраіне сяла
Крычаць з тугой і болем.

Напоўніць май сады
Духмянасцю вясновай —
І светла мне тады,
Як ад надзеі новай.
Ці не ў такія дні
Бяром усе мы штосьці
Ад гэтай чысціні,
Ад гэтай прыгажосці?

* * *

Знаёмы краявід,
Знаёмы далягляд...
Паедзеш — як магніт,
Прыцягнуць зноў назад.

Чаму ж так светла мне
Сярод густых прысад?
Бо ў гэтай старане
Мне месяц — родны брат!

І ў залатым пяску,
Як прыгаршчы манет,
Між сосен у ляску
І мой адліты след.

І голасам маім
Лясы спяваюць тут.
І гэты спеў — як гімн,
Што славіць родны кут.

І хто здалёк зірне,
Не зможа зразумець,
Ці будзе без мяне
Мой любы край квітнець.



* * *

Сыпле дзень праменні справа,
Як дагэтуль сыпаў злева.
Потым — новая праява:
Хмары...
Грукат...
Бляск —
Залева!
Поўдзень сыпле жменяй промні,
Сыпле прыгаршчамі — помні
Гэту шчодрасць!
Але што мне,
Як не ўзяць у рукі промня?
Пунсавеючы жалезам,
Што распалена на горне,
Промні так не пахнуць бэзам,
Як, прыпамсі, змрок вячорні...
Промні так не пахлі б мятай
І не пахлі б так язмінам,
Каб у садзіку за хатай
Ты не ззяла ў змроку сінім.

## НАЧНЫЯ ЦЕНІ

Золак... Зіхаценне.
З неба ранак гляне —
І ў трывозе цені
На лясной паляне.

Я не веру ценям —
Цёмныя асобы:
Ім начная цемень
Толькі даспадобы.

Дзень пральле прамені
І на гэту з'яву...
Вы благую, цені,
Атрымалі славу.

Не скажу нічога:
І святло вам трэба,
Ды святло — начнога
Месячнага неба.

Слаўлю дня з'яўленне —
Ён святло здабудзе!..
Вы — ад змроку, цені,
Мы — ад сонца, людзі.

* * *

Ціха па мяккай траве...
*Максім Багдановіч*

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ночка хадзіла.
Часта міргаючы,
Зоркі ўсміхаліся ёй.

Спала зямля,
І прыроду яна не будзіла
Лёгкай, як подых дрымоты,
Хадою сваёй.

Светла навокал было,
Як у замку крыштальным.
Госцю чакаў вадзянік
На вільготным пяску...
Доўга купалася ноч
Перад золкам світальным,
Белым туманам
Завесіўшы мройна раку.

## ГУСІ

— Гусі! Гусі! Гусі!
— Га! Га! Га!
І ляцяць да Люсі
Як мага.
Мала ці нямала —
Не лічыў чарод —
Люся гадавала
Іх штогод.
Голас любай чую —
Думкаю сваёй,
Днюю і начую
Толькі з ёй.
Сэрцу таямніча,
Як у нейкім сне.
Хіба Люся кліча
Не мяне?
— Любы! Любы! Любы!
— Я! Я! Я!
(Быццам граюць трубы:
Ты — мая!)

— Люся! Люся! Люся!
— Вой, вой, вой!
Не свая раблюся...
Што са мной?

Мне па гэтых птушках
Доўга смуткаваць:
На чыіх падушках
Буду спаць?
Новыя падрубы,
Светлых вокан звон.
На падушках любай
Добры сон.
Ад яе аблічча
Водбліскі ўваччу.
Толькі хай пакліча —
Прылячу!

— Гусі! Гусі! Гусі!
— Га! Га! Га!
І ляцяць да Люсі
Як мага.
А з гусямі тымі
Я і сам лячу.
Іншай гаспадыні
Не хачу!

* * *

Налівайце, слівы, і спяліце
На асеннім сонейку плады,
Каб яны ў лісцёвым аксаміце
Пасінелі злёгку ў халады.
Ну, а я паеду, мусіць, днямі
І не дачакаюся ўжо вас.

Вы нібыта ўсыпаны пладамі,
Ды, шкада, зялёнымі якраз.
На расстанне я не пажыўлюся:
Вы не пачастуеце мяне,
Як раней, бывала, а вярнуся
Я, відаць, як-небудзь па вясне.
І тады, у белым шлюбным цвеце,
Вы кіўнеце мне галлём сваім
І ласкава ў вочы так зірнеце,
Быццам вінаватыя вы ў чым.

* * *

На ўзмежку зялёнай азіміны,
Як сонцам шугне лістапад,
Стаю нерухома гадзінамі
Над цудам кляновых прысад.
Стаю, як трывогай няпэўнаю
Да іх маё сэрца прыб'е,
Шукаючы сілу душэўную,
Схаваную ў гэтым святле,
Святле, што азімінай новаю
Праб'ецца ізноў на палях
Ці ўспыхне вясёлкай лісцёваю
На міг у садах і гаях.

* * *

Добра пішацца дома.
Ледзь устаў з-за стала,
І ў бакі мяне стома,
Як са сну, павяла.

Сад ад сырасці стыне —
Восень, што ні кажы!
Дацвітаюць вяргіні
На асеннім дажджы.

Непашана сезону,
Што намок, як мяшок.
Пацягнуць бы азону
Цудадзейны глыток!

П'ю сырое паветра —
Дажджавую смугу.
І чаму гэтак светла —
Зразумець не магу.

## КНІГАЎКІ

Мы птушцы рады, як знаходцы:
З гадамі птаства вымірае.
Меліярацыя балотцы
З адною мэтай вымярае...

Драмаў у прыцемку прасёлак,
Асенні дзень свяціўся цьмяна,
І я ад крыкаў невясёлых
Спыніўся ў полі нечакана.

Над гэтым полем апусцелым,
За лугавінаю рудою,
Паблісваючы крыллем белым,
Кружылі птушкі чарадою.

Што гэта? Нейкае нашэсце,
Напад на восеньскія нівы?
«Дык гэта ж кнігаўкі!» — нарэшце
Пазнаў я голас іх тужлівы.

Хоць мы праступем рэчак стужкі,
У лесе чынім самасуды,
А найсамотнейшыя птушкі
Жывуць, як некалі, усюды.

І я б хацеў адкінуць страхі:
Жыццё не згіне на планеце,
Калі жывуць такія птахі,
Як нашы кнігаўкі на свеце!

## АТАВА

Калі дождажык — неўпапад,
Калі вецер — недарэчы...
Пачынаўся лістапад,
Вербы плакалі ў міжрэччы.
Ты пачуў бы іх?
Наўрад.
Паглядзеў бы?
Нецікава.
Ды спыніла твой пагляд
Незвычайная атава.
І заціхнуў ліставей
Перад ёю на хвіліну,
Нават глянуў ласкавей
На такую зяляніну.
І,
схіліўшыся над ёй,
Ён не ведаў, што парадзіць,
І пачаў яе рукой
У парыве ўцехі гладзіць.
Ледзь свяціўся далягляд
У чаканні ледаставу...
Заглядзеўся на атаву
І... не ўбачыў лістапад.

* * *

Травы, што не скошаны
З чэрвеньскімі росамі,
Восень абавязвае
Паміраць вясной.
Са слязьмі даказвае
Штосьць бярозка восені,
Стоячы на купіне
З вольхаю сырой.

Неба па-асенняму
Звычаю — дажджлівае:
Хмурыцца і хмарыцца —
Дакажы вазьмі!
Пабурчыць, бурклівая,
Пазлуе, злаcлівая,
А пасля паслухае
Скаргу са слязьмі.

Нечакана выгляне
Сонейка асенняе
І нібы парадуе
Весткай ад вясны.
Ах, бярозы светлыя,
Дрэвы летуценныя!
Як яны ўпрыгожылі
Гэты кут лясны!

Ён ад іх сагрэецца,
Ён ад іх засвеціцца,
Ці імжа насунецца,
Ці мароз дыхне.
Калі дзень без сонейка,
Калі ноч без месяца,
Ён святлом бярозавым
Цепліцца пачне.

* * *

Не думаў я, што ты мяне спаткаеш.
Такая цемень! Вецер. Дождж пайшоў...
Ну, як жывеш? Са страху не ўцякаеш,
Калі спаткаеш прыцемкам зайцоў?

Тады ў жыцці ты разбіраўся слаба:
На двор баяўся выбегчы ўначы.
Не пра цябе хадзіла гэта слава?
Не ўспамінаць? Ну, добра. Не скачы!

Пацалавацца хочаш, не іначай?
Як Джым калісь. Ты чуў пра Джыма? Не?
Чакай, а дзе ты бегаў, сын сабачы?
Ну, гавары без выкрутасаў мне!

Не зразумеў... Паднесці хочаш сетку?
Што ж, паспрабуй! Ну як, браток, яно?
Ты болей не палохаеш суседку,
Употай заглядаючы ў акно?

Мы — дома? Толькі хто адчыніць дзверы?
Пастукаць трэба... Лепш я сам, пастой!
Ты, як відаць, застаўся без вячэры,
Дык пойдзем, павячэраем з табой.

## ЭЦЮД ПОЗНЯЙ ВОСЕНІ

Стаяць пачарнелыя ночвы.
Дажджы...
Хлюпацяць капяжы.
Сырыя і цёмныя ночы
Залеюць у сетцы імжы.

Рыжуха,
 чаго яна лезе
На цёплую сталь лемяша?
Не толькі іржа на жалезе —
Вось так і залее душа.

Не дзіва —
 такая залева!
Ні промня не бачна даўно.
Найлепей куецца жалеза,
Пакуль не астыла яно.

Дажджы...
 Набрыняла, счарнела
На дрэвах адразу галлё,
І ў золі начной пазмрачнела
Навокал людское жыллё.

Адзін,
 да сцяны прытуліўшыся,
«Сажань» стаіць на дажджы
І слухае ўсё, прытаіўшыся,
Як хлюпацяць капяжы.

Замшэе не толькі камень,
Калі пагасне прамень...
І людзі жывуць чаканнем,
Прагнучы перамен.

## ЗІМЫ МАЛЕНСТВА

Студзень... Гразь...
І дождж, і вецер.
Не было таго раней...
Дуб махае чорным веццем,
Белых просячы завей.

Незімовыя сялібы,
Незімовая зямля.
Сад — не вішні і не слівы —
Скруткі чорнага галля.

Хто б сказаў, што будзе ўранні?
Думаў, сівер з ног саб'е.
Выйшаў — вецер ураганны
Цёплай хваляй абдае.
Дзе той снег, мароз і замець?
Як не быў той час, калі
Тут — яшчэ за нашу памяць —
Зімы іншыя былі.

Студзень... Іней...
Снег навокал.
Вецер пеніць грэбні хваль,
А сумёты — вышай вокан,
Роўна з хатамі амаль.
Ззяе чыстымі снягамі
Невыказна ясны дзень,
І танцуе пад нагамі,
Як маленькі гномік, цень.
За каўнер марозік лезе,
Цешыць сэрца снегу ўсхліп.
Ружы кінуў бы — на снезе,
Палымнеючы, цвілі б!

Студзень... Ноч...
Мароз і месяц —
Хвілі,
лепшыя ў жыцці!
Свеціць месяц — добра ехаць
І не горш, відаць, ісці.
Дрэвы ў інеі: «Мы стынем!»,
Зоркі ў небе: «Мы дрыжым!»...
Мы не спім — па снезе сінім
Зноў на лыжах мы бяжым...

Хто малепства не згадае?
Можа, некалі зусім
У чароўным нашым краі
Больш не будзе гэткіх зім.
Ды, згадаўшы звычай даўні,
Я разгладжу бараду
І, як Дзед Мароз сапраўдны,
На ялінку ў сад прыйду.
І прыйду не без гасцінца:
— Што было,— скажу я,— тут!
Зімы нашага дзяцінства —
Гэта быў сапраўдны цуд!
Грукне студзень — снег навокал!
Ён як цукар быў якраз
І ляжаў ля самых вокан...
Вось дзе быў,— скажу я,— час!

* * *

У сумётах кане
Скарга завірух —
З'явіцца ў тумане
Сонца бледны круг.
Снег вакол ды іней
На слупах, галлі.
Блытаніна ліній
Неба і зямлі.

Ступіш — асцярожна:
Гэта — чысты свет,
І пакінуць можна
Тут усякі след.
Зіхаціць ваколле.
Асляпляльны дзень!
Першы след у полі
Засінеў, як цень.

І няхай ён, сіні,
Цягнецца з двара.
Алы след пакіне
Вечарам зара.
А зялёны ў краі,
Што нам люб здаўна,
Лепей пракладае
Хай сама вясна!

## ВАЛЬС ШТРАЎСА «ВЕСНАВЫЯ ГАЛАСЫ»

Светлай раніцай прадвесня
Сны ружовыя лясоў
Абарваў таемнай песняй
Гул вясёлых галасоў.
Іх пачуў музыка слынны
І, свае згадаўшы сны,
Пераліў у хуткаплынны,
Незвычайны вальс вясны.
Толькі тым, хто марай юны
І надзеяй малады,
Навяваюць радасць струны,
Не трывожачы гады.
Не на ўдачу спадзявайся —
На зялёныя лясы
Ці кружыся лепш у вальсе
«Веснавыя галасы».

* * *

Калі смуткуюць па шчаслівай маладосці,
Здаецца мне:
Вось-вось міне
мая вясна,
І хочацца прыдумаць штосьці,
Каб затрымалася яна.
А што зрабіць, прызнацца, я не знаю,
Каб маладосць,
Каб маладосць
прадоўжыць мне.
І я жыву — пакутую, кахаю,
І, як раней, у твар мне вецер дзьме.
Гарэнне ў працы і юнацтва спадзяванні —
Усё было,
І ўсё прайшло
сваёй чаргой:
І першыя расчараванні,
І першы нечаканы поспех твой.
І пачынае, як сказаў Багрыцкі,
Дзьмуць вецер успамінаў нам у твар.
І ў сэрцы зноў агеньчык разгарыцца
І, нібы зоркі, бліснуць іскры мар.
І, доўга ўслед ёй гледзячы, як госці,
Я не шкадую, што праводжу маладосць:
Я зразумеў і зведаў штосьці
І не аддам таго, што ёсць.

* * *

Гады, гады...
Як лівень, адшумелі!
І дзе мне іх шукаць, мае гады,
Што напракудзілі ў юнацкім хмелі
І замялі свае сляды?

І з небыцця,
як з казачнай краіны,
Не верне іх ніякі чараўнік!
А мне ж яны пакінулі руіны,
І я павінен атрымаць разлік.

А шмат якіх і не згадаць наогул —
Нібы спавіты вечнай цішынёй.
Ні першым громам,
ні духмяным стогам
Не ажывуць у памяці маёй.

На колькі песень
і шляхоў у пыле,
Сустрэч з каханай, гульняў і размоў
Яны мае ўспаміны абядпілі
І не сказалі нават:
«Будзь здароў!»

* * *

Мы тое, што маем,— не цэнім,
І некуды з родных хацін
Услед за сваім летуценнем
На крылах надзеі ляцім.
Ды гэта — васковыя крылы:
Ва ўсіх нас — Ікаравы ўзрост...
І вось пад свае небасхілы
Брыдзём мы панура наўпрост.
І толькі за тое, што мелі,
Мы крылы надзей аддалі б!
Ды нешта мы ўсё ж зразумелі
Пад небам няродных сяліб.

Інакш, жывучы неўпрыкметку,
Нічога маглі б не знайсці,
Калі б сваю папараць-кветку
Штодня не шукалі ў жыцці.

* * *

Ад мрояў і жаданняў
Ні гуку ў галаве.
Хто мне душу параніў,
Там болей не жыве.
Хто суцяшаў аднойчы,
Той не суцешыць зноў...
Куды ж імчаць на тройцы
Надзея і Любоў?
Але чаму між імі
Не бачу Веры я?
З трывогамі сваімі
Ляціць зямля мая,
А Вера ходзіць недзе
Між чатырох шляхоў...
Чакаю, хто ж прыедзе:
Надзея ці Любоў?

* * *

Выношваў юнацкую мару,
Ды ветрам панесла яе!
Збіраюцца ў чорную хмару
Блакітныя мары мае.

Я змокну пад ліўнем вячыстым,
І ён, калі сціхне на міг,
Паветрам, празрыстым і чыстым,
Напоўніць, як ветразі, іх.

* * *

Усё, чаго не разумеў,
Спрабую зразумець.
Чаго я некалі не ўмеў —
Хачу цяпер умець.
Як рэчка, пачуццё было —
Дзе тое пачуццё?
На гэта сто гадоў пайшло —
Амаль усё жыццё.
Чаму я марыць не магу,
І захапляцца зноў,
І ўсхвалявана не бягу
Да ўзлескаў і гаёў?
Я не бягу, як на бяду,—
Іду паволі я,
Як быццам тое, што знайду,—
Знаходка не мая.
І мо таму, што я іду,
А не бягу туды,
Я больш прайду і больш знайду
І ўцехі, і бяды.
Нібы, як буду спакайней
Я на жыццё глядзець,
Гарэць не буду, як раней,
А буду толькі тлець.
Нібы, чым буду памалей
Я некуды ісці,
Тым будзе смерць мая далей —
Я ўсё зраблю ў жыцці.
Калі цякло, калі пякло —

Не дзьмула ж за каўнер...
Якое пачуццё было,
А дзе яно цяпер?!
Ды я не б'юся галавой,
Як рыбіна аб лёд,
Аб тую сценку, за якой —
Ні думак, ні турбот.

* * *

Я не тужу па маладым,
Такім імгненным пачуцці.
Зямлю спавіў зялёны дым —
І стала больш святла ў жыцці.
Ды не спыняе час хады:
Як па вадзе, ідуць кругі.
І бель, пакінуўшы сады,
Сышла вясёлкай на лугі.
Каб гэтым часам залатым
Ты ўсё, што хочаш, мог знайсці,
Дык хто паплакаў бы па тым,
Што ўжо не здзейсніцца ў жыцці?

* * *

Старасць позна засынае,
Не раней, як маладосць,
Але — хто таго не знае? —
Ці між імі згода ёсць?

Усё роўна, хто іх сварыць,
Ды прапала б хутка злосць,
Каб магла прыпомніць старасць,
Што рабіла маладосць.

* * *

Ты думаў, загінулі мроі,
А з імі вяртаецца ранак!
І ў новым, вясновым настроі
Ты выскачыш з хаты на ганак.
Чаромхавай белі духмянасць
У голаў, як хмель, табе ўдарыць:
Не верне тваю ўсхваляванасць,
Дык будзеш хоць верыць і марыць.
Ды верыць не ў прымхі і дзівы,
А марыць тайком не пра тое,
Што станеш ты самы шчаслівы
І знойдзеш руно залатое.
І верыць не ў лёгкасць удачы,
А ў поспех, што спее паволі,
Каб хваляй уцехі гарачай
Не збіў цябе з ног ён міжволі.

## РАДАСЦЬ І СМУТАК

Радасць прыходзіць, як поспеху свята
нядоўгае,
І не бяда, калі з ног на хвіліну саб'е.
Радасць знаходзіць таго, хто яе заслугоўвае,
Толькі патрэбна хоць раз пастаяць за сябе.

Радасць грыміць з рэпрадуктара маршавай
музыкай,
Плешча, шуміць, як лавіна або вадаспад.
Смутак журботна цурчыць ручаінаю
вузенькай —
Кожны каменьчык на дне зіхаціць, як дукат.

Радасць і ўцеха не ходзяць па сцежках
няходжаных:
Радасць аплочана смуткам, а ўцеха — слязьмі.
І пераможца балюе за кошт пераможаных...
Гэта дазволена богам — не толькі людзьмі.

Смутак выходзіць на шчырасць, трывогу
сардэчную,
Не пакідае, як зарыва ў небе, сляды.
Не пераймае ні ўдачу, ні славу нявечную
І не хаваецца ў цень ад агульнай бяды.

Радасць... Завошта? За лямант, за грубасць
душэўную?
Смутак... За што? За спагаду, любоў,
дабрыню?
Радасць ці смутак? Стаю перад цяжкасцю
пэўнаю.
Шум або ціша? Я выберу лепш цішыню.

Радасць — як рэха: хоць гулкае, але халоднае,
Што за калодзеж пусты аддае сіняву.
Смутак — не роспач... Разважлівасць
высакародная,
Годнасць жанчыны, што горда нясе галаву.

## ШКАДАВАННЕ

Хоць не слухай гэтую пласцінку:
Прыгадаю — сэрца зашчыміць...
Толькі выйду з клуба на хвілінку,
Азірнуся — і яна стаіць.
А чаго, я не падумаў неяк
І не ўбачыў водбліск веснавы,

Што кідаў з-пад цёмных доўгіх веек
На мяне пагляд яе жывы.
І, пра што б ні напявалі струны,
Я не глянуў нават ёй услед.
А былі ў красунькі гэтай юнай
Стужкі ў косах, як вішнёвы цвет!
Дык чаму я не спыніў дзяўчынку,
Не загаварыў як-небудзь з ёй?
Я ж усіх адорваў безупынку
Маладой увагаю сваёй!
Ну, а тут не здагадаўся нават
Падысці, хоць раз пажартаваць...
Колькі ўсім сказаў я слоў ласкавых,
Ды не тым, што трэба, як відаць.

* * *

Чым я жыў? І да чаго я
Так імкнуўся ўсё жыццё?
Дзе сінее тая мроя,
Свеціць тое пачуццё,
Што спаліла-спапяліла
Сэрца ў полымі-агні —
Тое сэрца, што прасіла
Не агню, а цеплыні.

І ні крыўды, і ні злосці
Ад падману і хлусні...
Як пражыць без прыгажосці
І жаночай чысціні?
Як запоўніць, чым запоўніць
Зараз гэту пустату?
Не растопіць нават поўдзень
Ледзяную немату.

Не астудзіць нават поўнач
Гэту спёку на душы...
І куды ў журбе ні пойдзеш,
Каб памарыць у цішы!
Ды самота ўсё ж не выхад,
І не мары я люблю:
Нечым трэба ж мне падыхаць,
Каб вярнуцца на зямлю.

Ёсць намер ці не вяртацца —
Абавязвае жыццё:
Толькі клопат, толькі праца
Утаймуюць пачуццё.
І запоўніць толькі клопат
Гэту бездань-пустату.
Толькі ён адзін растопіць
Ледзяную немату.

Праца — лепшае збавенне —
Верне радасць пакрысе,
А пасля і здавальненне
Першы поспех прынясе.
Калі спраў на свеце столькі —
Не даводзіцца тужыць...
Нельга жыць без працы толькі,
Без кахання — можна жыць!

## ДАРАВАННЕ

Падзякуем працы
за вільгаць салёнага поту,
І бацьку, і маці,
з якімі пазналі работу.
І ўдзячнымі будзем
за тое, што марыць вучылі,

Настаўнікам-суддзям,
якія за намі сачылі,
Каб мы не хлусілі,
у лужынах ног не мачылі,
«Даруйце!» прасілі,
«прабачце!» часцей гаварылі.
Давайце даруем
за тое, што нас не любілі,
І тых пашкадуем,
што з намі памылкі рабілі.
Давайце даруем
і тым, праз каго мы не спалі,
Забыць паспрабуем
усё, што дарэмна чакалі.
Магчыма, і тыя,
што некалі нас падманулі,
У хвілі цяжкія
таксама хоць раз не заснулі.
І тыя красуні,
што некалі нас не кахалі,
Пасевамі руні
таксама па сонцы ўздыхалі.
Мы з лёсам жартуем,
як з маскамі на карнавале.
Давайце даруем!
Магчыма, і нам даравалі.

* * *

Юнацкія перакананні —
Нібы надвор'е напрадвесні:
Сем-восем змен на дзень!
Лядок зашкліць палонкі ўранні,
А праз гадзіну звонка трэсне,
Схапіўшы сонечны прамень.

Схапіўшы зверху ведаў трохі,
Людскога вопыту аснову,
Мы мелі погляды свае
На супярэчнасці эпохі,
На славу, край бацькоўскі, мову
І ўсё, што нам жыццё дае.

Мы на святле шукалі плямы,
Як на зямлі ляжалі цені
Ці змрок ахутваў далячынь.
Выношвалі пацiху планы,
Што потым рухнулі, як сцены,
І нас пакінулі ні з чым.

У рытме часу паступова
Пачуцці бурныя ўлягліся,
Як на шляхах падняты пыл.
З імглы наіўнасці ружовай
Прарэзаліся ведаў высі
І азарылі небасхіл.

## МАСТАЦТВА

Бясспрэчна, неаднолькава, ды свеціць
У прыцемку начным ліхтар і месяц.

Ды ці ратуе радасць паказная
Таго, хто роспач першую спазнае?

Асвеціць твар скупая ўсмешка крыху —
І чуцен смех замест глухога крыку.

Ты разам з тымі, што крычаць і скачуць,
А твае вочы несціхана плачуць.

Яны настрою сэрца падуладны —
І не запаліць іх азарт эстрадны.

І толькі-толькі ўсмешка з твару знікне,
Як позірк твой «дапамажыце!» крыкне.

Такая радасць — выдумка юнацтва,
Адзін з узораў ранняга мастацтва:
Не выдаваць нікому ў паняверцы,
Якая скруха тоіцца на сэрцы.

*

Ты не бяжыш, як хлопчык, у трывозе —
І не растопчаш ляльку на падлозе.

І, хоць няма на твары азарэння —
Адзнакі незвычайнага ўзбуджэння,

Тваю істоту радасць напаўняе
І, як на моры ветразь, падганяе.

І ты імчаўся б, скачучы па хвалях,
Але ж цябе за гэта не пахваляць.

І, вытрымкай жалезнаю славуты,
Ты ёю, як да прыстані, прыкуты.

І гэта ўменне сталасці стрымацца —
Адзін з узораў позняга мастацтва.

* * *

Супярэчнасці ў свеце якія!
Пасталелі як быццам гады,
А надзеі і мары такія,
Як тады, калі быў малады.
Не злічыць, колькі дзён праляцела
У жыццёвай пустой мітусні.
Астывае, слабеючы, цела,
А душа, як раней, у агні.

І, здаецца, саюз іх — няроўны,
І пакутуе толькі душа.
Ды не гасне агеньчык чароўны —
Разбіваецца посуд спярша.
І, калі чалавек памірае,—
З целам, згодна кантракту таго,
Расстаецца душа маладая
І навек пакідае яго.

І тым самым ад тлену ратуе
І надзеі і думкі яна,
І па целе ў сусвеце смуткуе,
Як блукае бясконца адна.
І таму чалавечыя мары
Не сыходзяць у ціш небыцця
І ў сусвеце блукаюць, як хмары,
Што нясуць з сабой слёзы жыцця.

## ЖАРТОЎНАЯ ЭЛЕГІЯ

Перасыпае снегам валасы,
А галаву скляротам прадзімае,
І, як птушыны грай у жоўтым гаі,
Імкненняў заціхаюць галасы.
Жаданні больш, як пчолы, не снуюць.

Адно, як павуцінку, вецер носіць —
Накшталт: «Пара, спакою сэрца просіць»
Ці «Я б хацеў забыцца і заснуць».
І мар няма! Мінула іх пара,
Калі яны ў сусвет мяне насілі,
Пакуль і я не падаў у бяссіллі,
Як птушка, пасярод свайго двара.
Адно жаданне толькі. (Зноў адно!
Усё ў адным, заўважце, экземпляры:
Жаданні, думкі, захапленні, мары...
З магчымасцю апошняй заадно.)
Дык вось яно: а ці патрэбна жыць?
Што за пытанне?! Трэба, безумоўна!
Нас гэты свет не пусціць усё роўна:
Хто ж будзе маладых жыццю вучыць?!.



* * *

Сумленне, ты мой бог адзіны!
Даруй, каб не было цябе,
З малітвай гэтаю гадзіны
Я не прастойваў бы ў жальбе.
Але, пакуль ты ёсць,— патрэбна
(Як падказаў мне розум мой)
Хоць раз звярнуцца непасрэдна
Да літасцівасці тваёй.
Ты мне — усё, маё сумленне,
Хоць не маліўся я табе.
Як хочаш — стану на калені
І галаву схілю ў журбе.
Дай мне цярплівасці і волі
Быць раўнадушным да сябе
І не зайздросціць тым ніколі,
Хто едзе на чужым гарбе.
Дай быць не гордым да пары мне
Жыць разумней, чым я жыву,
І ў час, калі навала грымне,
Трымаць высока галаву.
О дай мне вытрымку, сумленне,
Як неразумнае дзяўчо
У мімалётным захапленні
Мне схіліць голаў на плячо...
Сумленне, мой суддзя ласкавы!

Прашу, пашлі ты мне спакой!
Відаць па ўсім, не без падставы
Бог на мяне махнуў рукой.
Навошта гора мне такое?
Падумай, як бы жыць я мог,
Калі б і ты мяне ў спакоі
Хоць раз пакінула, як бог.

## ЗАГАДКАВЫ ЧАЛАВЕК

**Жарт**

Я думаў,
чым больш чалавек жыве,
Тым болей ён знае і ўмее!
Калі нават клёпкі няма ў галаве —
Ён з вопытам
паразумнее!
Ды што ён рабіў
у дзяцінстве сваім,
Рабіць у юнацтве не будзе,
А што ён рабіў у юнацтве,
зусім
У дні маладосці забудзе.
Таго,
што было ў маладосці яго,
Сталеючы, не разумее,
А ў старасці —
трэба чакаць усяго —
І ўвогуле ён здзіцянее.
І незразумела мне толькі адно:
Як зорку злавіць талакою?
І як адчыніў ён у космас акно —
Сваёй
ці чужою рукою?

## ЗАЯВА
## Ў ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА

Не вывучаў я іншых моў.
Скажу адно. Лінгвіст і сябар!
Я пратэстую супраць слоў
Гатунку «хабарнік» ці «хабар».
Іх трэба продкам перадаць!
Хутчэй спісаць як архаізмы.
Каму патрэбны афарызмы
Накшталт такіх, як «хабар даць»?

Знішчаць іх трэба як заразу!
Не месца ў нашай мове ім!
Я слова «хабарнік», між тым,
Прымаю толькі як абразу.

Абразяць — і вядуць у суд,
На лаву, так сказаць, падсудных.
І раптам вынесуць прысуд
Табе з-за гэтых слоў паскудных.

Зрабіце — колькі паўтараць! —
Іх нецэнзурнымі ў краіне,
Каб тых, хто злоўжывае імі,
Як зневажальнікаў караць.

Узяў ці даў... Што за рахунак!
Скажы, каб сэнс прыстойны быў:
«Я падарунак ім зрабіў»,
Ці «Мне паднеслі падарунак».

Прытым, чаму мне нельга ўзяць?
Ці даць? І лепш, чым «блат займела»,
«Я маю сувязі» сказаць.
Прыемна. Проста. Зразумела.
І ні намёкаў, ні абраз.

І ўсё, галоўнае, прыстойна.
І адчуваеш больш спакойна
Сябе пасля прыстойных фраз.

Я — супраць слоў ніжэйшай пробы!
І зразумець мяне прашу:
Хіба я ад сваёй асобы —
Я ад імя усіх пішу!

## ХРЭН

Чулі вы? Ахрэм Варон
Нешта не ў гуморы.
Не знаходзіць месца ён
У сваёй канторы.
Чалавек ён неблагі.
Сёння ж — невыносны!
Мо не з той устаў нагі —
Вось таму і злосны.
З той нагі ўставаў Ахрэм,
Быў зусім здаровы...
А віной ва ўсім тут хрэн —
Горкі хрэн сталовы.

Захацела на абед
Жонка раптам хрэну!
Як сказала — белы свет
Прыкрым стаў Ахрэму.
«Я магу купіць, аднак
Хрэн з базару несці —
Гэта ганьба: як-ніяк
Я — фігура ў трэсце!»

Што ты будзеш з ёй рабіць?
Захацела хрэну!
І асмелься не купіць —

Разыграе сцэну!
Карацей, скандал вісіць —
Не абыдзеш сварку...
«І каго тут папрасіць?
Можа, сакратарку?
Атруціў мне хрэн душу.
Проста ўсё няміла!
Што ты зробіш? Папрашу,
Каб яна купіла.
Не,— адумаўся Ахрэм,—
Скажа ўсім, што шэфу
Я купляць хадзіла хрэн —
Потым будзе смеху!
Ну, а нехта: так і так...
Ці была патрэба?
Моў, выкарыстоўваў штат
Я не так, як трэба...»

Цяжка — што тут гаварыць! —
Беднаму Ахрэму...
Час інструкцыю стварыць
І адносна хрэну!

## ЖАНЧЫНА ЁСЦЬ ЖАНЧЫНА

Думаў я —
анусціліся нашы жанчыны,
А, здаецца, раней
як багіні былі!
Безумоўна,
нічога няма без прычыны —
І жанчыны бунтуюць калі-нікалі.
Быць не хочуць —
і ўсё тут! —
прадметам кахання,

Захапления,
здзіўлення
і марных надзей.
Захацелася ім перавесці дыханне —
У навуку і працу забрацца глыбей.
(Хоць, гляджу,
трактарыстка
па звычцы
саляркай
Падвяла і адно, і другое брыво.)
Па-другое,
калісь і Вагіф, і Пятрарка
Параўноўвалі з ангельскім іх хараство.
Зараз ангелы зніклі.
Дык з кім параўноўваць?
А без гэтага, знаеце,
нельга, відаць.
Ну, і клопат пра нас, пра мужчын:
паміж роўных
Значна лепей сяброўак сабе выбіраць:
Глянеш — рыжыя ўсе! Ну, і русыя зрэдку,
І ні кудлаў аўсяных,
ні кос ільняных.
Паступова зраўняліся ўсе неўпрыкметку —
Не паганіш адных,
не пахваліш другіх.
Вось і сталі,
як дрэвы, яны на праспектах:
Не адрозніш адно ад другога —
стандарт!
Так капацца зручней
у машынах, канспектах,
Гэта стрыжка ідзе
да курэння і карт.
Ды жанчына —
усё ж засталася жанчынай.
Што ж, прырода, відаць.
І з прычыны тае,

Што цікавасць да іх стала падаць,
магчыма,
На спаднічкі змянілі спадніцы свае.
І не толькі дзяўчаты —
францixi пустыя,—
Наглядзеўшыся фільмаў з удзелам Ларэн,
А Марыі Іванаўны — нават і тыя
Паказалі цнатлівую бледнасць калень.
Мы не супраць каленяў!
Чаго, малайчыны!
Толькі
каб не было часам лішніх размоў...
Я сказаў:
апусціліся нашы жанчыны,
А яны на Алімп
падымаюцца зноў!

## У СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ САКАВІКА

Перш чым жанчын павіншаваць
З такім вялікім святам,
Свой род хачу я паўшчуваць
За іх сталом багатым.

У светлы дзень сакавіка
На вуліцы ці ў парку
Хай не падымецца рука
Ні ў кога з нас на чарку.
Калі запросяць, так і быць...
Мы — паўтараю зноў я —
Калі і будзем разам піць,
Дык піць за іх здароўе.
Ці ў нас жыццё без іх было б
Падобным на маліну?
Яны нас лечаць ад хвароб,

Нуды і нікаціну.
Ці ж ад авансу ў нас хоць раз
Хапіла б да палучкі?
Калі б не бралі ў рукі нас,
Мы ўсе дайшлі б да ручкі!
Калі хто часам з ног далоў —
Без выкрыкаў гарэзных
Яны сваіх вядуць дамоў,
Чужых — у выцвярэзнік.
Пускаюць на футбол — прытым,
На пройгрышныя гульні,
Каб толькі мы адкрылі ім
Завочныя цырульні.
А колькі іншага ўсяго
Наабяцаем з болем:
Напрыклад, не губіць свайго
Здароўя алкаголем.
Яны без скаргі і тугі
Нас абмываюць, кормяць.
Прамыўшы добра нам мазгі,
Ізноў да сэрца горнуць,
За што, як прыйдуць на прыём
З усмешкай вінаватай,
Мы абяцанні ім даём...
Не толькі ў дзень іх свята.
Мы ўсё гатовы абяцаць
На словах ці ў газетах,
Ды што, скажыце, можна ўзяць
Ад абяцанняў гэтых?
Яны і ў свой святочны дзень
Пякуць, гатуюць, смажаць —
Не раз святочны працадзень
Больш, чым будзённы, важыць.

І, каб сябе не адчуваць
У нечым вінаватым,
Я абяцаю віншаваць
Жанчын і з нашым святам!

## СПАКУСА ПРАЛЕСКАЙ

Я сказаў:
— Паблукаем на ўзлеску...
Узышоў маладзік залаты.
І пры месяцы знойдзем пралеску,
Пра якую не марыла ты.

А яна:
— Лесуновы патомак,
Зразумееш ты гэта ці не:
Залаты маладзік — не пярсцёнак
І прытым не на пальцы ў мяне.
Снег і той не растаў у канавах.
І сыры яшчэ ўзлесак лясны,
А пралеска, апошняя нават,—
Толькі першая кветка вясны.

## УСПАМІН АБ ПЕРШЫМ КАХАННІ

Яна была не Афрадыта,
А я — не алімпійскі бог...
І хлопцы ўпотай і адкрыта
Хадзілі ўслед за ёй, як світа,—
І я дарэшты збіўся з ног!
Хоць не апошні быў нібыта,
А падступіць бліжэй не мог.

У свіце той былі дацэнты,
Ды што... прафесары былі!
Хто сыпаў жменяй кампліменты,
А хто — чырвонцы ці рублі.
І на руках яе насілі,
Нібыта ляльку, юнакі.
Ды не кахання ўсе прасілі,
Не сэрца нават, а рукі.

Хто быў з машынай, хто —
з грашыма,
Найбольш — без грошай і машын...
Ну і была, скажу, дзяўчына!
Перакалола, як шыпшына,
З паўсотні сэрцаў у мужчын.

Павёз красуню ў «Запарожцы»
Якісьці навуковы дзед,
А мы, няўдачнікі, ад злосці,
А мо і ў гонар пераможцы,
Люлюкалі, свісталі ўслед.

Не вытрываю, думаў, страты —
Памру назаўтра! Але ж не!
Жывы застаўся...
Нежанаты,
Хаджу, як франт той зухаваты,—
Ану ж удача не міне...
І непрыгожыя дзяўчаты
Глядзяць з усмешкай на мяне.

## СУСТРЭЧА З БЫЛЫМ НАСТАЎНІКАМ

У гарадку, праслаўленым
Не памятаю чым,
Сустрэўся я з настаўнікам,
Настаўнікам былым.

Ён позняю гадзінаю
Пасля турбот і спраў
Не з любай, ды адзінаю
(Законнай палавінаю)
Па беразе гуляў.

Ёсць словы незаменныя
Пры выпадку такім,
Як поціск рук, прыемныя:
«Ух, колькі лет і зім!»

— Дык як жывеш, як маешся?
І лёсам к нам якім?
У вёсцы ўсё змагаешся
Ці стаў мо гарадскім?
Жанаты?
Надакучыла
Пытанне гэта мне,
Я не хачу выкручвацца,
Адказваю, што не.

— Хаджу з адной дзяўчынаю,
А так... не маю з кім.
Сустрэць хачу адзіную...
— Ну,— кажа,— глупства кінь!

І не марудзь, бо спознішся...
А з кім — якая розніца?
Доўг аддаваць жыццю
патрэбна ўсім,
Каб не звялося прозвішча
І род не знік зусім.

А мо ён мае рацыю?
Да дваццаці сямі
Жыву з бабулькай-працаю —
Ні даху, ні сям'і...
Завёў знаёмства з пляшкаю...
Так і жыццё міне!

І зноў задачу цяжкую
Задаў настаўнік мне!

## У ГРЫБАХ

— Я лясныя знаю таямніцы:
Дзе шукаць маліну, дзе — суніцы.
Абіваў штовосені арэхі...
А грыбы пачнуцца — колькі ўцехі!
— А цяпер мы паўгадзіны ходзім,
Ды пакуль нічога не знаходзім.
Ты ж казаў мне ўчора, што ў Дубровах
Набяром кашы жоўтагаловых.
Ты казаў, што іх у лесе — горы!
— Я, відаць, казаў пра мухаморы.
— Ты казаў, што ты хлапец што трэба:
Ці то ў сад залезці, ці на дрэва.
А ў бярэзнік зойдзеш раніцою —
Падасінавікаў, хоць касі касою.
А баравікі, нібы па змове,
Закідаюць шапкамі ў дуброве.
— Сапраўды казаў? Ну добра, згодзен.
Мы з табой як звязаныя ходзім.
Ты ж ідзеш, нібы на танцы,— бегам,
Нібы лес вось-вось засыпле снегам.
Мы даўно б знайшлі па сыраежцы,
Але там, дзе ты ідзеш у спешцы,—
Быццам ты хадзіць інакш не ўмееш —
Не расце нічога, разумееш?

## ХТО ВІНАВАТЫ?

То там, то тут —
То па гразі, то ў пыле...
Адзін хамут
Віной, што конь — у мыле.
З хвіліны той,

Калі яго пашылі,
Сядзіць пятлёй
Ён у каня на шыі.

У крыўдзе конь:
Стаў на дыбкі зацята.
— Не я — супонь
У гэтым вінавата!
А я стаю
І збоку назіраю:
Віну сваю
Не прызнаю! Чакаю...

## ТОЛЬКІ ПРЫВІТАЎСЯ

— Эй, Падласка!
Добры дзень!
Не даешся мухам? —
У каровы Авадзень
Прагудзеў над вухам.
А Падласка —
хвост трубой
І паўцёк!
— Якая!..
Прывітаўся толькі з ёй,
А яна ўцякае!

## НА ПРАЎЛЕННІ КАЛГАСА

Актыў сабраўся на праўленне.
Па шклянцы стукнуў старшыня:
«Канчаць хутчэй сенакашэнне» —
Стаяла на парадку дня.

Курылі (як па ўсіх нарадах),
Гудзелі ў дыме, як чмялі...
Пра разбазарванне ў брыгадах
Кармоў
пытанне паднялі.

Аб тым,
ці ёсць сумленны злодзей,
Зайшла гаворка ў іх сама.
— Напэўна, ёсць.
— Не, не... Не згодзен:
Сумленных злодзеяў няма.
— Ну як няма? — пад нос прабумкаў,
Як авадзень, галоўны бух,—
Існуе злодзей двух гатункаў...
— Ох, мусіць, больш!
— Не, толькі двух!
Адзін крадзе — цябе пакліча,
Падзеліць разам
і... прап'е.
Другі ж — варожае абліччa! —
Сам цягне — іншым не дае!
— Што цягне сам — бяда малая,
Затое не дае сябрам.
Свядомасць злодзея ўзрастае...
— З ім па дарозе нават нам:
Вартаўніком паставіць можна
Капцы ці сціртЫ вартаваць.
Хоць будзе красці сам бязбожна,
Але не дасць табе цягаць...

Агульны смех і ажыўленне.
Смяецца нават старшыня.
«Хутчэй канчаць сенакашэнне!» —
Стаяла на парадку дня.

— Ну, а з другім?
— З другім па стопцы

Перакуліў — і можна жыць...
Тым больш калі падхопяць хлопцы,
Што не на месцы ў нас ляжыць.
І нават злодзеі, прызнацца,
Патрэбны: памагаюць нам
З безгаспадарчасцю змагацца —
Штось падбяруць
то тут, то там.

Маўчанне.
Лезуць у кішэні
Па самасад мужчыны зноў...
— Дык вось...
Канчаць сенакашэнне!
Пытанні ёсць?
Тады — дамоў!

## СТАРШЫНЁВЫ КЛОПАТ

Асушыў я летась гаць.
Загадалі — заараць!
Я адным, вядома, махам
Заараў і сенажаць.
Ні лугоў, ні хмызняку,
Не пазнаць зусім раку,
Ды не большаюць надоі —
План гарыць па малаку.

Павялічыў удвая
Лік хвастоў на фермах я,
А надой з адной каровы
Раптам знізіўся ўдвая.
На палетках — ні куста!
Ну, а вынік — марната.
Зразумеў я, што надоі
Не павысяцца з хваста.

І хвасты без лішніх слоў
Як галовы я правёў.
А надоі? А надоі
Як з хвастоў, так і з галоў!
Мне сказалі: дурань вы!
Ці ж надоі з галавы?
І з кароў карысці мала,
Калі знікнуць паплавы.

Ат, пра што я гавару!
Думаў: мусіць, пагару.
Ды азіміна шугнула,
Як ніколі, угару.
А кароўкі: му-му-му!
А карміць мне аднаму...
Што, калі зялёнай масы
Дам кароўніку свайму?

Вось ён... жэст кіраўніка:
Трубку ўскінула рука —
І пайшоў я хутка ўгору
Па надоях малака.
Поспех! Поціскі рукі,
Віншавальныя званкі...
Але тут мае праўленцы
Раптам сталі на дыбкі!

— Ты,— мне кажуць,— гарадскі,
Мы ж — былыя мужыкі.
Хіба вырашыць праблему
Падыход да спраў такі?
Колькі жыта ты скасіў? —
Я іх змоўкнуць папрасіў!
А яны мне называюць
Збожжа скошаны масіў...

— Ты падумай, кажуць, сам
(Ці табе яшчэ няўцям?),

Як ты па ўраджаю жыта
Потым выканаеш план?..
Так я трапіў у капкан.
Разумееце мой стан?
Кажуць, што хвілін пятнаццаць
Я стаяў як істукан.

## НАСЦІНЫ ЗАРУЧЫНЫ

Падміргнуўшы гарманістам,
Што бязладна рыпалі,
Танцавалі мы са свістам
Пад старымі ліпамі.
Навакол жанкі стаялі
І вачыма лыпалі,
Атрасалі хусткі, шалі —
Цвет скідалі ліпавы.
Дзед, пастух калгасны Кузя,
Ці «стварэнне боскае»,
Адбіваць пачаў у крузе
«Яблычка» матроскае.
Мы — пападалі ад смеху...
— Людзі, ой, пабачыце —
Вы перад сканчэннем свету,
Мусіць, гэтак скачаце!
— Чулі, бабка, казку гэту —
Розум твой атручаны!
Гэта не сканчэнне свету —
Насціны заручыны.
— Надта ж ты адукаваны...
Апчасліві Ліпава:
Скачаш тут зашмальцаваны.
Рад, што чарка выпала?
— Бабка, я ж — механізатар!
У мазуце хрышчаны

І, як божых слёз аматар,
Ад грахоў ачышчаны.
— Ну скачы, скачы, як хочаш.
Ты яшчэ дахвалішся!
І на рогі д'яблу ўскочыш
Ці ў канаву ўвалішся...
— Ну, а дзед вось гэты, Кузя?
— Ён? — бабулька хрысціцца.—
Ён вазіць у пекле будзе
На сабе антыхрыста.

З хаты Насця выбягае
З чаркаю настоечкі:
— Ну, бабуля, дарагая,
Выпіце... хоць столечкі!
— Што вы, дзеткі... Я — старая.
Вып'ю — буду п'яная.
...Бабка губы выцірае:
— Старасць. Эх, бяда мая...
Што, як не дайду да хаты...

Бабка сыпле прыказкі,
І ля бабкі, зухаваты,
Ходзіць дзед упрысядкі.

## АБЫ ДА ВЕЧАРА ДАЖЫЦЬ

Сяк-так мне да вечара дажыць,
А вечарам мой міленькі прыбяжыць.

*Беларуская народная песня*

Што каму: дзяўчыне хлопец малады,
Ну, а мне глыток піўка сяды-тады.

Я, разлёгшыся на сене ў катуху,
Гэту песню перайначыў бы крыху.

Перайначыў бы, каб толькі, праўда, мог:
Наляжышся — не падняць ні рук, ні ног.

У мяне да працы сэрца не ляжыць:
Так-сяк абы да вечара дажыць.

Я і ўпоперак хадзіў, і наўскасяк.
Калі — бокам, калі — скокам, усяляк!

Час мяняецца, і, як заўважыў я,
Хутка падае цана на гультая.

Ты ляжыш сабе, бывала, у цяні —
І ідуць табе за гэта працадні.

Каб тады плацілі гэтак, як цяпер,—
Я даўно, напэўна, быў бы мільянер.

А цяпер ляжыш — нікому не кажы:
Ні капейкі — хоць паўгода праляжы!

Зараз тэхніка з усіх бакоў імчыць!
Паспрабуй ты ля камбайна адпачыць!

Ды ніхто яшчэ гаворкі не завёў
Пра спаборніцтва для бедных гультаёў:

Хто найболей з абібокаў праляжыць,
Калі іх належным чынам абслужыць.

Прабіваешся зацяжкай тытуньку...
Ох, як цяжка жыць на свеце лайдаку!

## БЕЗ ПАМЯЦІ

Прачнуўся я. Не песціць і пасцель.
А галава, як звон! Яшчэ і нудзіць.
І кідае ў бакі ўчарашні хмель,
Што па пустых сасудах блудзіць.
Кваску б папіць! Ці кіслага чаго.
Або яшчэ гарэлкі шклянку!..
Не помню штось... век не было таго...
Калі я лёг? І як пакінуў п'янку?
Я памятаю, як апошні раз
Мне налілі. Я выпіў. А што далей?
Іду на кухню: «Ну, давайце квас!» —
«А-а-а, ты праспаўся, хлопчык!» —
мне сказалі.
І пачалі расказваць... Дзіва з дзіў!
Што ўчора адбывалася са мною!
Няўжо і я на карачках хадзіў
І ў лужыны кідаўся галавою?
Свіння, калі я поўзаў па гумне
(Ажно на бэльку курыца ўзляцела),
Зарохкала, абнюхаўшы мяне,
Ад радасці, што сваяка сустрэла.
І стаў касцюм мой новы — глянуць страх!..
Я штось спяваў, калі вялі дахаты.
Найгорш язык... Ён блытаўся ў зубах,
Нібыта піў не я, а ён, пракляты!
Паклалі спаць (хоць я не помню — як?).
І, кажуць, пацяшаліся суседзі.
А самі, як зірнеш... Заўсёды так:
Ледзь выпіў — і прапала памяць недзе!
А без яе і розум ты згубіў.
А кацялок без розуму не цяміць...
Ва ўсім, што я без памяці рабіў,
Я вінавачу толькі памяць!

## ЯК ПОМСЦІЦЬ ЗАЙЗДРОСНІКАМ

**Жартоўны варыянт**

Быў у вас супернік —
Шчыры, як дружбак:
Ён даваў вам пернік,
Сціснуўшы... кулак.
І добразычлівец,
І зайздроснік ваш —
Трапна біў, ліслівец,
На падхалімаж.
Мажучы патрошку,
Стаў ён сябруком
І пачаў... падножку
Рыхтаваць тайком.
Першы раз ён шкоду
Спадцішка зрабіў
(Калі ў бочку мёду
Лыжку дзёгцю ўліў),
Каб пасля — па звычцы —
(Раз і назаўжды)
Утапіць у лыжцы
Веснавой вады...

Добра, калі ўдасца
Раскусіць яго.
Скажаце: «Во трасца!
І за што? Чаго?»

Сон пабеража[ы]це
І не хмурце лоб...
Зуб — за зуб! Пішыце
На яго паклёп.
Хай кантроль народны
Страсяне за чуб,
Пройме пот халодны,
Лясне зуб аб зуб.
Калі ёсць паклёпы,

Сваркі, нелады —
Мусіць, недахопы
Знойдуцца заўжды.
І пашлюць чын-чынам
Хлопца ў іншы край.
Могуць і з рэжымам
Даць гадок, бадай.
І, глядзіш, кар'еру
Ён рабіў дарма:
Вернецца — даверу
Больш таго няма.
І тады ў кантору
Прыйдзе ён да вас...

Узляціце ўгору
Вы за гэты час!
Што вам даспадобы —
ДРУ ці лесирамгас?
Не было б хваробы —
Поспех прыйдзе ўраз.
Лес пачнеце пляжыць
І сплаўляць набок...
Ён здалёк заўважыць
Зміевы дымок.
— Што там за ўстанова?
— Леспрамгас «Хім-дым».
— Хто ж дырэктар?
— Лёва.
— Я ж знаёмы з ім!

Возьмеце вахцёрам...
Свет не без таго...
Ці сваім шафёрам
Зробіце яго.
Ён за вас — на неба!
І ў агонь, і ў дым!

Вось як помсціць трэба
Ворагам сваім!

## ЛІСТ СТАРШЫНІ КАЛГАСА ДА ДЗЕДА МАРОЗА

Віншую з Новым годам,
Таварыш Дзед Мароз!
І зноў з тваім прыходам
Мы ездзіць сталі скрозь.
Ператварыў ты ў груды
Суглінак і падзол,
І «козлік» мой усюды
Зноў скача, як казёл!

На жаль, дарог ніколі
Нам нельга абмінуць,
А часам з іх на поле
Так хочацца звярнуць!
І песня ж ёсць: «Дарогі,
Дарогі, пыл ды гразь!..»
Іх псуюць нарогі,
Уз'едзеш — і заграз!

А кажуць, слова з песні
Не выкінеш! Язда —
Няшчасце напрадвесні:
Вакол слата, вада...
А вуліцы! Таксама.
І з імі нелады.
І там на яме яма,
І там гразі-вады...

Такая заварушка —
Нагою не ступіць!
Хоць курыца — не птушка,
А ўсё ж пераляціць.
А як такой дарогай
Праехаць старшыні,
Як спраў усякіх многа,
А часу — ані-ні!

Пращу пра гэта — згода? —
Падумаць усур'ёз.
Твой продак ваяводай
Быў некалі, Мароз.
Заходзіў ён, прыдзіра,
У кожнае сяло,
Глядзеў цішком, каб дзірак
Ці трэшчын не было.

І ты такі ж вандроўнік,
Здаецца мне, Мароз...
Але нашто ў кароўнік
Ці ў клуб мой сунеш нос?
Што возьмеш з навасёлаў?
А ў дзірку паглядзіш —
Няўзнак ушчэміш голаў,
Нібы ліса ў гладыш.

Няхай сабе спяваюць!
Нашто табе той клуб?
Мяне ж за гэта лаюць.
Ды што! Бяруць за чуб!
Далёкіх продкаў вопыт
Надумаў пераняць?
Твой непасрэдны клопат
Шляхі рамантаваць.

Гуляй даўжэй вясною,
Прасёлкі лепш сушы —
І зажывём з табою
Тады мы ад душы!
Пакрыўджаны не будзеш:
Падзяку аб'яўлю!
А падарункі любіш —
На Першамай зраблю.

## З НІЗКІ «Я І ІНШЫЯ»

### ПРА ЭЛЕГІІ

Пішу элегіі?
Прызнацца,
Іх у мяне нямала ёсць.
Аплакаць не паспеў юнацтва,
Як прамільгнула маладосць.

### ЭПІТАФІЯ МАРЫ

Я ведаў, ведаў,
што так скончыцца:
Як паімчыцца мара з месца,
То найхутчэй яна,
як гоншчыца,
На паўдарозе разаб'ецца.

### ТАМУ, ХТО ЗАЎСЁДЫ ПЕРШЫ

І на касьбе, і на сяўбе,
І ў адпачынку
ты — зачыншчык:
Пераацэньваеш сябе,
Недаацэньваючы іншых.

### КАНЕЦ СЯБРОЎСТВУ

Мы сябрамі з ім былі
і доўгі час
Заляцаліся да дзеўчыны адной.
Мусіць, ён адмоўны атрымаў адказ:
Болей не вітаецца са мной.

## ДЗІВА

Юнацтва верыць:
ёсць на свеце дзіва!
І праўда,
можна толькі маладым
Хадзіць па краі слізкага абрыва,
Спавітага ў ружовы дым.

## КАЛІ МАРУДЗІШ

«Паўзеш, як чарапаха тая!» —
Пачуеш ты, калі марудзіш,
Што ў перакладзе азначае:
Памалу едзеш — далей будзеш.

## НАКІД АЎТАПАРТРЭТА

Твар пагас —
сталі беднымі рысы,
Ды затое блішчыць сівізна!
Божа, добра яшчэ, што не лысы!
Ёсць на свеце хоць радасць адна.

## ЗАНЯТАК ПА ДУШЫ

Усё ж нарэшце ён сабе
Занятак па душы нагледзеў:
У дзень будзённы
лынды б'е,
А ў святы — вокны... у суседзяў.

## РОЗДУМ НА ЛАВЕ ПАДСУДНЫХ

Ну, дадуць... Толькі год? Ці мо болей?
Як з рэжымам — нялёгка мне будзе.
Вось табе «не спыняйся ніколі
На дасягнутым...». Мáніце, людзі!

## ПАРТРЭТ

Што пустою здаецца —
сама вінаватая:
Вельмі ярка фарбуе губы.
Як ніхто,
яна ўнутраным зместам багатая:
Залатыя ўставіла зубы.

## КАХАННЕ І ФУТРА

Я гордых дзяўчат не любіў.
Дурны,
я не цяміў нічога!
Я футра табе падарыў,
А ты —
пакахала другога.
А гордая, знаю, была б,
Дык футра назад аддала б!

## АПАНЕНТЫ

Я пагадзіўся з рэцэнзентам
І зборнік свой дапрацаваў.
Ды ўсё, што ён хваліў,
другі забракаваў,
Яго назваўшы грозна
апанентам!

Яны ў запале
пер'і скрыжавалі,
А што рабіць мне далей —
не сказалі!

## АБ ПЛАНАВАСЦІ

Я кладуся спаць па плану.
Толькі вось ці заўтра ўстану:
Мною ж не запланавана,
Ці ўставаць мне заўтра рана?

## ЗМЕСТ

## СПАКУСА ПРАЛЕСКАЙ

**Міклашэўскі Я.**

М 59 У спрадвечным руху: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 95 с., іл.

45 к.

У цэнтры ўвагі паэта — духоўны свет нашага сучасніка, які сур'ёзна думае пра жыццё, пра лёс роднай зямлі і праблемы свайго часу, пра ўсё, што адбываецца сёння на планеце.

М $\frac{4702120200-043}{М302(05)-85}$ 69—85

ББК84Бел7
Бел2

**Евгений Васильевич Миклашевский**

В ДВИЖЕНИИ ВЕЧНОМ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *В. М. Бароўка*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *І. М. Паланейчык*

ІБ № 2287

Здадзена ў набор 08.08.84. Падп. да друку 05.12.84. АТ 06653. Фармат 75×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,75. Ум. фарб.-адб. 4,14. Ул.-выд. арк. 4,08. Тыраж 1700 экз. Зак. 647. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.